④ КАНТАКТ

ШЛЯХІ БЕЛАРУСКАЙ ДУМКІ

ГОД ВЫД. II № 2/4/ ЛІПЕНЬ 1990

С Ё Н Н Я Ш Н І  Д З Е Н Ь

Віктар Мароз

## Неакаланіялізм і беларусы

Здзіўляе мяне не сённяшняя польская палітыка ў адносінах да Беларусі, але пасіўнасць дэмакратычных сіл у Менску да рэзультатаў гэтай палітыкі. Не пішу тут пра становішча камуністычных улад, якія фактычна з'яўляюцца каланіяльнымі, ці нават акупацыйнымі ўладамі. Усе злачынствы, зробленыя камуністамі на беларускім народзе, давялі яго да заняпаду. Апошні эксперымент, які Масква праводзіць рукамі сваіх сатрапаў у Менску ў адносінах да жыхароў Чарнобыльскай зоны, праўдападобна закончыцца смерцю каля 2 мільёнаў беларусаў. Нашу нацыю чакае чарговы генацыд, які будзе працягвацца дзесяткі гадоў, а вінаўныя наўрад ці знойдуцца...

Эканамічны, экалагічны, маральны і палітычны крызіс на Беларусі стварае сітуацыю, у якой здабываць уплывы можа кожны, хто запрапануе нешта іншае. Гэта разумеюць палякі. Іх палітыка з'яўляецца вынікам не толькі сітуацыі на Беларусі, але і новага становішча ва усходняй Еўропе. Шматвяковае саперніцтва між Варшавай і Масквой на Беларусі цяпер уваходзіць у новы этап, якога важнай прыкметай з'яўляецца існаванне трэцяй рэальнай сілы - беларускага палітычнага руху.

Праўда, гэты рух толькі пачынае адраджацца, здабываць дасведчанне і вывучаць жыццёвыя пытанні нашай бацькаўшчыны,у тым ліку і адносіны да суседніх народаў. Дзеячы Беларускага Народнага Фронту "Адраджэнне" ужо давалі дакладна пераанaлізавалі маскоўскую палітыку і яе вынікі. Нарэшце пачаўся разгляд і польскай палітыкі. Па гэтаму пытанню нядаўна з'явіліся ў менскім "ЛіМ-е" два салідныя артыкулы Анатоля Сідарэвіча, з якіх апошні - "Ці будзем мы нацыяй?" /"ЛіМ", 29 УІ 1990/ выклікаў нават пратэст польскага консула ў Менску, які звярнуўся да кіраўніц-

тва БНФ з патрабаваннем, каб яно аднеслася да гэтага артыкула і выказала сваё абурэнне. На маю думку, польскі консул на Беларусі паводзіць сябе не толькі як прэфект рымскай правінцыі, ён проста абражае гаспадароў гэтай зямлі.

Што ж напісаў Сідарэвіч, што так занепакоіла консула? На падставе фактаў ён паказаў асноўныя мэты польскай дзяржавы і яе Каталіцкай царквы ў іх дзейнасці на Беларусі. Высновы Сідарэвіча такія: ажыццяўляючы сваю ўсходнюю палітыку польская дзяржава заўсёды спрыяла каталіцызацыі, а яе Каталіцкая царква пераўтварала беларусаў ды іншых у палякаў. У мінуласці мэты гэтай царквы і дзяржавы супадалі, у выніку чаго міф "паляк -гэта католік" і наадварот пераўтвараўся ў рэчаіснасць.

Далей Сідарэвіч сцвярджае факт выкарыстоўвання прынцыпаў гэтай традыцыйнай палітыкі ў сучаснасці. На Беларусь наплываюць многія місіянеры і вялікія сумы долараў на польскую культуру, асвету і арганізацыйную дзейнасць. Пасля ўстанаўлення Т. Кандрусевіча епіскапам Беларусі каталіцкія ксяндзы разгарнулі ліхаманкавую дзейнасць. Пры тым ніхто не звяртае ўвагі на факт, што большасць католікаў на Беларусі гэта беларусы. Ім назначана быць палякамі. Абапіраючыся на факты і польскую каталіцкую прэсу, Сідарэвіч паказуе, якім чынам Беларусь можа пераўтварыцца з камуністычнай рэспублікі ў польска-каталіцкі край.Паказуе таксама мэты дзейнасці польскіх ксяндзоў і ў праваслаўных асяроддзях.

Польскі консул гаварыў прадстаўнікам БНФ: "... няма ніякай планаванай акцыі пашырэння польскіх уплываў на Беларусі, - гэта ёсць проста адраджэнне польскасці. Таму і касцёл і дзяржава дапамагаюць як могуць, але гэта адбываецца без супроцьбеларускіх дзеянняў". Не ведаю, ці ў гэтыя баналы паверылі дзеячы "Фронту", але калі сённяшнія расейска- і беларускамоўныя "савецкія людзі" пачуюцца палякамі, то апрача камуністычнага нігілізму і расейскага шавінізму выявіцца трэцяя хвароба - польскі нацыянальны і рэлігійны фанатызм, які будзе знішчаць беларускі аслаблены арганізм.

У палякаў існуе закадаваны імперыяльны комплекс,які маніфеставаць пакуль што не вельмі магчыма. І хаця ім удалося давесці да асуджэння пакту Рыбэнтроп-Молатаў і яго акрэслення за "няважны ад самага пачатку", то аднак ніхто адкрыта не выступіў за вяртанне даваенных межаў. І не адсутнасць зацікаўлення палякаў землямі за т. зв. лініяй Керзана, ані нейкая савецкая пагроза не дазваляе ім гаварыць пра змену дзяржаўных межаў, а толькі аб'яднаная Нямеччына. Палякі разумеюць, што якая-небудзь дыскусія пра змену межаў гэта палітычнае самагубства.Таму, нічога аб гэтым не гаворачы, яны пашыраюць уплывы ў сваіх былых калоніях, асабліва на Беларусі. Польскія гісторыкі, публіцысты і іншыя прафесіянальныя прапагандысты здаўна пішуць аб мільёнах палякаў вывезеных у Сібір у час шаленстваў НКУС у гадах 1939-1941. З гэтага ліку выглядала б, што энкавэдзісты вывезлі з Беларусі некалькі разоў больш палякаў, чым іх там было.Праўда тут няважная. Справа ў тым, каб паказаць даваенны этнічны характар гэтай зямлі, згодна з пажаданнем аўтараў.

Як грыбы пасля дажджу вырастаюць у Польшчы розныя рэвізіяніцкія арганізацыі - Таварыства Сяброў Гародні і Вільні, Таварыства Любіцеляў Беларусі і іншыя, паўстаюць навуковыя інстытуты, якія дэталёва вывучаюць сацыяльныя, культурныя, рэлігійныя, эканамічныя і палітычныя праблемы Беларусі. У польскіх сярэдніх і вышэйшых школах вучацца патрыятызму маладыя людзі з Беларусі, якія пасля вяртання на бацькаўшчыну будуць місіянерамі польскай справы. Калі дзеячы БНФ абмяркоўвалі з польскімі палітыкамі арганізацыю адпачынку ў Польшчы для дзяцей з Чарнобыльскай зоны, то ксяндзы, якія мелі непасрэдна займацца гэтай акцыяй, дамагаліся толькі дзяцей палякаў, каб іх ратаваць ад русіфікацыі. Няшчасце, хваробы і цярпенні дзяцей беларусаў іх не цікавілі.

У гэтых адносінах характэрная гутарка карэспандэнта бээнэфаўскіх "Навінаў", Валерыя Буйвала, з кансультантам польскага сената Ежым Марам Наваkоўскім /гл. "Навіны", 14 УІ 1990/. На запытанне Буйвала, як развязаць праблемы польскай меншасці на Беларусі і беларускай у Польшчы, польскі палітык падказваў як памагаць палякам у Беларусі, аднак не сказаў ні слова адносна беларускай меншасці ў Польшчы. Відавочна, паводле Навакоўскага, такая праблема выступае толькі на Беларусі, а ў Польшчы яе няма. Да такіх высноваў ужо даўно дайшлі беластоцкія салідарнікі /Лебэнштайн/ і т. зв. незалежная прэса.

Ашаламляючымі тэмпамі ідзе паланізацыя Гродзеншчыны.Палякі кінулі там аграмадныя сродкі. Вядомы польскі шавініст, Адам Дабронскі, піша нават, што Гародня гэта польскі горад /"Кур'ер Подляскі", № 174/. Каналамі Каталіцкай царквы безупынна льецца матэрыяльная і інтэлектуальная дапамога. Невыпадкова епіскапам Беларусі ўстанавілі паляка, хаця былі адпаведныя кандыдаты беларусы. Надалей пастырамі праваслаўных беларусаў застаюцца расейцы, а каталіцкіх - палякі. Я ўжо не здзіўляюся тым маладым беларусам, якія мараць аб вяртанні паганства і аб тым, каб усё пачаць нанова. Вядома, гэта толькі фантазія, як рэакцыя на працягласць духоўнага каланіялізму.

З польскага пункту гледжання даволі прыкрым фактарам з'яўляецца беларускі энклаў на Беласточчыне.Як жа тут гавараць пра "польскасць" паловы Беларусі, калі ў Польшчы на тэрыторыі некалькіх гмін паўстаюць беларускія структуры і ўсё больш актывізуецца невялікая, сістэматычна паланізаваная, беларуская грамадскасць. Гэтая яе актыўнасць, выкліканая патрэбай абароны ад польскага шавінізму, моцна разюшвае мясцовых "патрыётаў".Беларусы абвінавачваюцца ва ўсіх магчымых злачынствах, але маючы толькі адну "Ніву", не маглі весці нармальнага змагання за сваю нацыянальную годнасць.

Пад час выбарчай кампаніі ў мясцовыя самаўрады палякі стасавалі тактыку ігнаравання беларускага палітычнага руху і кампраметавання яго лідэраў. Яны трактавалі беларусаў як дзяцей, якія павінны слухацца сваіх паноў і настаўнікаў. Сярод гэтых апошніх бачылі сябе. Выглядае на тое, што беларусы, калі хочуць, каб на іх глядзелі як на добрых дзетак, павінны не толькі слухацца, але і заўсёды дзякаваць за польскія школы, за эка-

намічны маразм, за спаленыя цэрквы і ўяўную талерантнасць. Гэта часам нагадвае нейкую трагікамедыю, толькі невядома ці з яе смяяцца, ці плакаць.

Імперыяльная хвароба нашых "братоў"-палякаў не дае магчымасці для аптымістычных ацэнак. У адных беларусаў яна выклікае страх, што мяне асабліва не здзіўляе, пакольке людзі памятаюць пасляваенны генацыд - Зані, Залешаны, Шпакі і дзесяткі іншых сімвалаў зверства; у іншых яна выклікае абурэнне і нацыяналізм што таксама небяспечна, пакольке можа пусціць у ход нікому непатрэбны спіраль ненавісці. Баюся яшчэ аднаго, што прыдушаныя шавінізмам беларусы заціхнуць і знешне маніфестуючы паланафільства і лакейства, унутры будуць чакаць нагоды рэваншу. А гэта нікому не прынясе добрай будучыні. Не беларусы і не палякі рашаюць лёс Еўропы. Тут усё можа здарыцца. Таму не разумею палякаў, якія паўтараюць даўнія памылкі.

Цікава заўважыць, што палякі патрапілі змяніць свае адносіны да ўкраінцаў,з якімі іх раздзяляла куды большая варожасць, чым з беларусамі. Яшчэ нядаўна ўкраінец у вачах паляка быў нейкім "бандэраўцам" з акрываўленай сякерай у руках, а сёння ён саюзнік, аб'яднаны супольным інтарэсам. Гэта я разумею. Тут супадаюць палітычныя мэты Ватыкану, Польшчы і часткі ўкраінскіх палітыкаў. Ватыкан бачыць нагоду, якой не было пасля апошняй вайны - экспансіі на ўсход, што нічым не пагражае ўкраінскім грэка-католікам. У іх ёсць свае епіскапы і святары. Палякі бачаць сярод украінцаў патэнцыял, які зможа самастойна існаваць і аддзяліць Польшчу ад Расіі. Вядома, што і ўкраінскім незалежнікам патрэбныя добрыя адносіны з палякамі.

На Беларусі такога патэнцыялу няма. Няма інтэлектуальных сіл, якія маглі б пакіраваць працэсам у напрамку незалежнасці, а БНФ мае, пакуль што, невялікую грамадскую базу. Няма эканамічных падстаў да незалежнасці, 1/3 народу і тэрыторыі чакае няясная будучыня, 40% савецкіх ракетных установак размешчана на тэрыторыі Беларусі, што з'яўляецца дадатковым аргументам для Масквы, каб не дапусціць да незалежнасці.

Палякі лічаць,што беларусы, якіх русіфікацыя амаль пазбавіла нацыянальнага аблічча, пойдуць у бок паланізацыі, калі ім будуць запрапанаваны іншыя вартасці, чым расейска-камуністычны каланіялізм. /На маю думку, гэта ўжо пачалося на Гродзеншчыне/. "Савецкі чалавек" перастае існаваць, як сацыяльна-маральная катэгорыя. Польская дзяржава і яе Каталіцкая царква маюць вялікія магчымасці пашыраць свае ўплывы ў "савецкім народзе", тады як беларусы, хаця нібыта ў сваёй дзяржаве, не карыстаюцца яе падтрымкай. У гэтых адносінах каланіяльная адміністрацыя БССР будзе толькі перашкаджаць, абзываючы свядомых беларусаў нацыяналістамі, экстрэмістамі і г. д. Нягледзячы на шумную прапаганду, па сутнасці не змянілася становішча беларускай мовы ў школах і іншых сферах грамадскага жыцця. Інакш кажучы, беларусы сталіся горшым гатункам расейцаў, так як у Польшчы яны робяцца горшым гатункам палякаў/"праваслаўныя палякі"/.

Як падняць беларускі народ з гэтага багна пакуль ён зусім не разтопіцца сярод ашалелых ад шавінізму суседаў? Чарнобыль і Курапаты моцна патраслі сумленнем беларусаў,спынілі камуністычныя эксперыменты, аднак не змянілі інтэлекту і прывычкі. Беларускай інтэлігенцыі трэба 10-20 гадоў цяжкай арганічнай працы ў галіне асветы, культуры, гаспадаркі і палітыкі. Толькі ці час дазволіць, а "братнія" народы не здушаць намаганняў?

На Беласточчыне беларуская інтэлігенцыя пачала такую працу, аднак невядома, як доўга яна вытрымае, калі гэты працэс не пачнецца ў шырэйшых маштабах у БССР. Усё ж, пакуль нам час дазваляе, трэба зрабіць усё магчымае, а нават больш, каб беларусы сталі нармальнай нацыяй. Усё можа змяніцца ў Савецкім Саюзе, можа змяніцца і ў Польшчы. I шкада было б, каб новыя пакаленні пачыналі ад пачатку. Нашы ўсходнія і заходнія "браты" маюць вялікія традыцыі экспансіі свайго шавінізму. Мы можам толькі працаваць над сабой, для сябе, для свайго народу. Гэтую магчымасць мы абавязаны выкарыстаць, каб у будучыні ганарыліся, што нарадзіліся беларусамі.

*********************************

Сакрат Яновіч

## Палітычныя пэрспэктывы Беластоцкага Краю

Беластоцкі Край - гэта беларусамоўная частка ваяводзтва, разам зь Беластокам як цэнтрам беларускага тут культурнага ды палітычнага руху. Такі тэрмін не падабаецца нашым інтэлігентным антаганістам; слушна бачаць яны ў ім спробу беларусаў выходзіць з польскага рэгіяналізму і фармаваньня адчуваньня ўласнай нацыянальнай бацькаўшчыны ў рамках Польскай Дзяржавы.Гэтая зьява аўтанамізацыі, хоць пакуль слабая, будзе расьці адначасна з дэмакратызацыяй і непазьбежнай дэцэнтралізацыяй жыцьця ў краіне. Чалавек перастае быць казённым, скарбовым халопам, і бярэ лёс у свае рукі. Працэс мацаваньня эмацыянальных і матэрыяльных сувязяў асобы са сваяцкім староньнем, даўно відочны на захадзе Эўропы, адновіцца і ў нас пасьля эпохі фэўдальных абсурдаў псэўдакамунізму. Гэткі камунізм як ідэалёгія раю замест працы мусіў закончыцца катастрофаю. На першы, павярхоўны погляд, зьдзіўляе толькі тое, што здарылася гэта аж так хутка!

Фармуецца Эўропа айчынаў; зьнікае Эўропа імпэрыяў. Пагранічныя бар'еры пераўтвараюцца ў адміністрацыйныя панянцьці.Дзяржаўная сувэрэннасьць не абазначае ізаляванасьці паміж народамі. Раўнапраўе дзяржаў пашыраецца ў роўнасьць нацыяў, што асабліва важнае і нам, беларускай меншасьці.

Традыцыі беларускага нацыянальнага руху ў Беластоцкім Краі - мізэрныя. Каб зразумець прычыну таго, трэба найперш памятаць аб тым, што мы знаходзімся на ўскраіне арэалу Беларускага Народу. Затым, у выніку плебэйскага характару яго базы, - заможныя клясы і слаі былі палянізаваныя або русыфікаваныя, - усё грамадзка жывое ў ім у міжваеньні захліснулася папулістычнай хваляй, адкуль блізкі крок у варунках капіталізму ў камуністычную дэмагогію або ў фашызм. Таму стабільнага згуртаваньня беларусаў, сталага часопіса для іх як мінімум, у нас ніколі дагэтуль не было. Беларуская культурная і палітычная фронда ў беластоцкім староньні выяўлялася эпізадычна і зь вялікімі перапынкамі /партызаншчына ў Белавескай Пушчы 1922 г., між славутае Грамады восеньню 1926 г., інцыдэнтальныя самадзейныя гурткі ў трыццатых гадах/. Нацыянальная падпольная дзейнасьць існавала маргінальна, не прабіўшыся з малаістотнай элітарнасьці ў масавасьць. Быў брак кампэтэнтных кадраў, паважных сродкаў, некан+юнктурнай замежнай падмогі. Адзіным кваліфікаваным падпольлем са значным рэзанансам лічылася Камуністычная Партыя Заходняй Беларусі. Мела яна ўсе тры вышэйспомненыя якасьці, г.зн. даныя на працягласьць і незьнішчальнасьць у сутыкненьнях з рэпрэсыйным апаратам тадышняй Польшчы. Канспірацыя гэтая характарызавалася, вядомая справа, глябалізмам, імпэрскім падыходам да беларускага пытаньня як усяго толькі дэталі эўрапэйскай сытуацыі, а ейная беларускасьць зводзілася на практыцы да рэгіянальнай назвы, спэцыфікі дзеяньня сэкцыі сусьветнай арганізацыі. Хутка тое спраўдзілася, калі ў маладым яшчэ сталінізм КПЗБ павярнулася супроць беларушчыны, чым аб'ектыўна ўспамагла польскія тэндэнцыі на т. зв. крэсах.

Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка,рэдукаваная да каляніяльнай палітычна-эканамічнай канторы Крамля, не мела рэальнага значэньня. Зрэшты, нават сяньня наша насельніцтва яе заўважае накшталт расійскага гэнэрал-губэрнатарства; Гародня, Бярэсьце ці Менск, гэта - звычайна - Расея, бо ўсё там па-руску.

Пашыраную ў Заходняй Беларусі пракамуністычную арыентацыю зламала сама савецкая ўлада, пасьля верасьня 1939 г. У значнай меры гэтым менавіта магчыма тлумачыць паўсюдна абыякавыя адносіны да прыходу немцаў летам сорак першага. Гэтую акупацыю --- спачатку лагаднейшую за савецкую -- нашы людзі ўспрымалі спакойна, нярэдка і з некаторай сымпатыяй да т.зв. нямецкага парадку і лягічнасьці. Вайна між двума таталітарызмамі кіравалася, аднак жа, сваймі законамі. Першымі парушылі спакой тутэйшых беларусаў якраз палякі,будучы элемэнтам лепей дасьведчаным у адміністрацыі і таму болей прыдатным акупантам. Яны пачалі помсьціць нам за нядаўні камунізм нашых актыўных адзінак, што выклікала рэфлекс абароны. Наганялі тым самым кліентаў пранямецкім беларускім арганізацыям з аднаго боку, і савецкім кадравікам па мантажы партызанскага руху - з другога. Былі гэта абцугі.

У пасьляваенны ж час, так сказаць,беларускаму страху зрабілася лягчэй. Праўда, надалей забівалі нас і палілі хаты, але

ўжо польскія банды,за якімі ганялася польскае ж войска прамаскоўскага ўраду. Потым усё адбылося, прыблізна, як у Расеі: палянізацыя па ўзору русыфікацыі, уцёкі народу з калектывізаванай вёскі ў прамысловыя гарады, татальнае маўчаньне і маральнае дэгэнэрацтва; была і розьніца - у Польшчы мякчэй і нічога да канца.

У сорак дзевятым заіскрыліся шанцы на нешта беларускае/аднаўленьне меншаснага школьніцтва/. У пяцьдзесят шостым - "Ніва", Беларускае грамадзка-культурнае таварыства; і неўзабаве - сумежныя ім утварэньні. Наводзіць на сумныя роздумы вось што:спатрэбілася ажно чвэрць веку, зьяўленьня "Салідарнасьці" у 1980 годзе, пакуль змаглі прабіцца праз бязгрэшнае наша культурніцтва нясьмелыя парасткі беларускага палітычнага руху,яго пачаткова канспірацыйныя структуры /- Беларускае Незалежнае Выдавецтва, Беларускае Абьяднаньне Студэнтаў/. Сьведчаньне таго,як марудна і доўга фэрмэнтуе нацыянальны працэс, і як лёгка і нялёгка перапыніць яго.

Беларускі палітычны рух у Беластоцкім Краі стаўся несэзонным фактам, фінальным этапам з этнічнасьці ў нацыянальнасьць, трансфармацыяй насельніцтва ў народ. Якія ж яму пэрспэктывы ? Насамперад абумоўлены яны мінулым, як і цяперашнім часам, і тэндэнцыямі ў будучыню, тую бліжэйшую, бачную. Ён, гэты наш рух, дасягнуў - нарэшце!- нармальнасьці, стаў клясычным для такога роду зьяў кампанэнтам мясцовага гарадзкога жыцьця, пазбываючыся стэрэатыпу тоеснасьці зь вёскай, гістарычная роля якрой скончылася разам з фэўдалізмам. Гарадызацыя - індустрыяльная фаза цывілізацыі - магла яго забіць у зародку, калі б наша сельская гаспадарка страціла сваю ўсходнеэўрапэйскую анахранічнасьць і сталася фэрмэрскім працягам горада. Так не здарылася, хоць эканамічны рахунак несумненна зьменіць пасьлямаянтковы краявід Беластоцкага Краю больш-менш на падабенства раней разьвітай заходняй Эўропы,дзе -хутарскія фальваркі і мястэчкі. Гэта і будзе так сказаць, натуральным асяродзьдзем для беларускай партыйнасьці, фонам лучнасьці дзеля абароны інтарэсаў гаспадароў,рамесьнікаў, дробных прадпрыемцаў. Іначай кажучы, пэрспэктывы беларускай палітычнасьці ў нас абрываюцца на тых грамадзкіх рубяжах, ад якіх пачынаецца непасрэдная залежнасьць ад дзяржаўна -польскай касы ды выплатаў зь яе /вялікапрамысловы пралетарыят урадавая адміністрацыя, ведамасныя і манапольныя прадпрыемствы/.

Наша беларуска-палітычная геаграфія пакрыецца з нацыянальна-дэмаграфічнай і адміністрацыйна-эканамічнай. У самім Беластоку можам разьлічваць на ягоныя прадмесьці, у якіх выразна відаць беларусаў з прыватнымі варштатамі, мінімалістычным бізнэсам. Але ў Гайнаўцы і ў Бельску, як гэта пацьвердзілі наш прагноз камунальныя выбары, ёсьць цалкам рэальныя шанцы на беларускую дамінацыю /карэнна-польская стыхія не пераважае ў іх/.

Беларускае Дэмакратычнае Абьяднаньне, сьпехам утворанае ў лютым 1990 г., празь няцэлыя чатыры месяцы ад сваіх нарадзінаў дабілася амаль стапрацэнтнай выбарчай удачы ў мястэчках той жа Гайнаўшчыны і Бельшчыны, і ў Гарадку каля Беластока.Уся

акцыя, важна зазначыць, прайшла на далёкім ад прафэсыйнсьці ўзроўні, які нагадваў не столькі палітыку, колькі палітыканства якраз. Значыць, насьпелі ўмовы для атрыманьня так знакамітых рэзультатаў, якія, здавалася б, пярэчаць нізкаму ўзроўню нацыянальнай сьвядомасьці нашага насельніцтва. Нешта падобнае нагладаецца ў сталічным Менску, у якім перамагаюць на выбарах беларускія патрыёты, хоць не пачуеш роднага слова на яговых праспэктах... Ніякай загадкі тут няма: справа ў каланіяльным становішчы тэрыторыі. Таму імкненьне да таго, каб стацца нацыяй, трэба разумець як імкненьне да лепшага жыцьця і лёсу. З гэтага,наогул, і бярэцца нацыянальны рух, бо асіміляцыя - гэта рэзігнацыя,згода на чужую ласку, капітуляцыя.

За пэрспэктывы беларускаму палітычнаму руху можна не турбавацца, ён ужо несьмяротны. Спрыяюць яму менавіта цяперашні час і вынікаючыя зь яго тэндэнцыі, чаго не мушу дакладней фармуляваць актуальнаму чытачу. Баяцца трэба нечага іншага - пасьлядоўнасьцяў мінулага. Не атрымалі мы ў спадчыне ані вопытнага сэніярату, ані грамадзкага клімату для беларускай самастойнасьці, ані палітычнай культуры тым болей. Робім на беларускай тут палітычнай ніве ўсенька так, бы тыя першыя нумары "Нівы" у пяцьдзесят шостым, калі аніхто з журналістаў тады не ўмеў і двух слоў звязаць на культурнай беларускай мове, ва ўсім спадзеючыся на перакладчыкаў... На жаль, чакае нас і надалей мноства памылак. Інакш не бывае ў маладых народаў. Проста, па законе маладосьці.

********************************

Ян Іванюк

## Беларусы і намэнклатура

У працэсе дэканструкцыі камуністычнай сыстэмы ў Польшчы адной з галоўных перашкод зьяўляецца г.зв. "намэнклатура". Намэнклатура гэта даволі агульнае акрэсьленне для шырокай групы людзей, якія займалі кіраўнічыя пасады ў палітычным, адміністрацыйным і эканамічным кіруючым апараце. Зьмена палітычнага становішча непасрэдна паставіла пад пагрозай іх жыцьцёвыя кар'еры і эканамічны дабрабыт. Натуральна, застаюцца яны найбольш заядлымі праціўнікамі ўсіх зьменаў і мэта іх дзейнасьці, гэта ўтрыманьне існуючага стану.

На тэрыторыі ўсходняй Беласточчыны праблема намэнклатуры мае і свой нацыянальны аспэкт.У параўнаньні да санацыйнай Польшчы, дзе беларус, а асабліва праваслаўны, ня мог працаваць нат як кандуктар на дзяржаўнай чыгунцы, нова ўлада пасьляваеннай дзяржавы дала, як здавалася, неабмежаваныя магчымасьці кар'еры.

Кәмуністы пра нацыянальнасьць не пыталі, абы толькі служыць ім аддана. У першыя гады пасьляваеннай рэчаіснасьці якраз і быў гэта галоўны фактар у фарміраваньні адносінаў беларусаў да новай улады. У дадатак смакам санацыйнай дзяржаўнасьці раз-па-раз частавала "Армія Краёва", праводзячы сваю тэрарыстычна— бандыцкую дзейнасьць супроць беларусаў.

Хутка выявілася, што новая ўлада не цікавіцца нацыянальным паходжаньнем працаўнікоў свайго апарату, толькі калі яны самі адпаведна хутка пра яе забудуць. Найперш пад ціскам інтэрнацыяналізму, а пасьля 1956 г. - польскага камуна-нацызму, беларусы на пастах былі прымушаны перш-наперш забыць сваю беларускасьць. Вядома, у правінцыі было лягчэй. Усе і так добра ведалі адзін аднаго і скрывацца не было перад кім.

З цягам часу становішча сталася, як быццам нармальным: людзі кіраўніцтва выводзіліся пераважна з мясцовага насельніцтва. У гэтай нармальнасьці найбольш ненармальным было тое, што беларусы, а прынамсі большая іх частка, якія апынуліся на службе ў партыйным, паліцыйным і адміністрацыйным апараце сталіся найбольш заядлымі палянізатарамі. Павольна,але сыстэматычна абмяжоўвалася дзейнасьць БГК-Т, зьменшваўся абсяг навучаньня беларускай мовы, татальна дэнацыяналізаваліся г.зв. беларускія ліцэі. З благаславенствам Масквы і паводле варшаўскіх дырэктываў душылася беларускасьць уласнымі рукамі беларусаў. За тым,каб зь беларускага асяродзя не выйшла аніякая незалежная ініцыятыва сачыла пільным вокам спэцыяльнае аддзяленьне палітычнай паліцыі, у якім, дарэчы таксама, пераважна працавалі беларусы.

За тое, што беларускасьць на Беласточчыне не згібела трэба дзякаваць жменьцы інтэлігентаў, да пэўнай меры Праваслаўнай царкве, адe, перш за ўсё, польскаму шавінізму.

Польскае насельніцтва Беласточчыны характэрнае, перад усім, фанатычным каталіцызмам. Узгадаванае ўпачуцьці вышэйшасьці й пагардлівасьці да беларусаў, доўга яшчэ не будзе нармальным партнёрам жыцьця. Усе канцэпцыі польска-беларускага сужыцьця выпрацаваныя ў Варшаве няўхільна разьбіваюцца аб "усходнюю сьцяну". Сапраўдныя пачуцьці грамадства заставаліся доўгі час жорстка здушанымі. Зараз, пасьля вызваленьня з-пад таталітарызму выйшлі на верх з падвойнай сілай і ... у жахліва прымітыўнай форме: - "Чырвоная зараза на Беласточчыне, гэта беларусы. Мучылі нас Колькі і Сярожкі ў міліцыі, правілі намі Ваські і Алёшкі з партыйных крэслаў, але канец зараз кацапскай уладзе".

Калі ў мінулагодніх выбарах беларускі незалежны рух паставіў двух сваіх кандыдатаў, было гэта поўнай нечаканасьцю для ўсіх, нават саміх беларусаў. Таму і водгук сярод насельніцтва быў слабы, і эмоцыі не ўскіпелі, тым больш, што сама падзея была больш сымбалічнай, чымсьці фактычнай акцыяй. Але бел-чырвона-белы выбарчы плякат з лёзунгам: "Беларусы, пра свае справы будзем гаварыць самі!", пачаў новы этап у жыцьці Беластоцкай зямлі. Выбары ў тэрытарыяльныя рады, што адбыліся 27 мая г.г. ста-

ліся сапраўднай палітычнай канфрантацыяй. З аднаго боку стаяла польска-каталіцкая "Салідарнасьць", з другога..., можна бы сказаць, беларусы, але не зусім адназначна. Вядучай сілай зь беларускага боку было, заснаванае чатыры месяцы да выбараў, Беларускае Дэмакратычнае Аб'яднаньне. Партыя карыстаецца даволі вялікай падтрымкай насельніцтва, але людзей якія сьвядома падтрымлівалі б ейную ідэалёгію і актыўна працавалі няшмат, так як нацыянальная сьвядомасьць усё на невысокім узроўні.

У шырокую выбарчую плятформу БДА ўліліся шматлікія плыні. Адной зь іх аказалася быць і даўняя намэнклатура. Людзі намэнклатуры хутка адчулі пагрозу з боку польскай "Салідарнасьці". Псыхалогія дзеяньня вырастала тут з нацыянальнага камплексу: "як жа гэта каб тут намі, у Польшчы, кіравалі беларусы?!". Ніякага значэньня не мела, што фактычны ўдзел у кіраваньні быў частковы, а ў радах беластоцкай намэнклатуры палякаў было ня менш, чым беларусаў. Шавіністычны камплекс знайшоў сабе прорву і выплыў бурлівай пенай. Атакаваная на фронце нацыянальным намэнклатура пачала шукаць ратунку ў нацыянальнай плыні. Беларускі рух выдаўся многім платформай, у якой можна было праводзіць старую палітыку. Але намэнклатура мае свае псыхалагічныя бар'еры і абмежаваньні. Нідзе не паявіліся радыкальныя нацыянальныя праграмы, затое праводзілася "хітрая" палітыка этнічнай салідарнасьці: "не гаворым адкрыта хто мы, але і так аддаем голас за сваіх".

Найлепшым прыкладам такога падыходу была Гайнаўка. Найперш самай вялікай праблемай выявілася быць назва выбарчага камітэту: слова "беларускі" было для многіх за сьмелым. Як агня баяліся гэтага слова і ў Беластоку, дзе ўрэшце рэшт, пад ціскам царкоўных кругоў, слова "беларускі" так і не ўжывалася. Ужо ў час выбарчай кампаніі, гайнаўскі, усё ж такі, Беларускі Выбарчы Камітэт, прыняў рашэньне не ўжываць /!/ плакатаў з лозунгам "Беларусы галасуйце на Беларускія Выбарчыя Камітэты", як за шмат радыкальныя. Невыпадкова, у такім аспэкце ўгледзела ў беларусах саюзьніка паміраючая камуністычная партыя. У большасьці выпадкаў прапановы супрацоўніцтва былі адхілены, але напр. у Гайнаўцы дайшло да "ціхага" паразуменьня.

Можна запытаць, чаму ў Беларускія Камітэты трапілі людзі з намэнклатуры, або зь яе мэнтальнасьцю. Адказ вельмі просты: іншых не было. Беларусы, традыцыйна мала актыўныя, не стварылі саргенізаванай антыкамуністычнай апазыцыі. Людзі намэнклатуры, гэта людзі актыўныя, вопытныя і са звычкай да палітычнай дзейнасці. Абставіны прымусілі іх уключыцца ў беларускую плынь, але ў якой ступені і ці на доўга?

Рэзультаты выбараў паказалі, што намэнклатура не мае шанцаў адбудаваць сваю ўладу ў гарадах. У Бельску і Гайнаўцы, не гаварыўшы ўжо пра Беласток, уладу захапілі дынамічныя сілы "Салідарнасьці". У Бельску і Гайнаўцы дэпутаты Беларускіх Камітэтаў ствараюць істотную апазыцыйную сілу, але наўрад ці здолеюць гэта выкарыстаць з увагі, перш за ўсё, на сваю ідэалагічную і маральную слабасьць.

Пра свайго роду дасягненьні намэнклатуры можна гаварыць у кантэксьце вясковых гмінаў. Большасьць выбраных дэпутатаў думаюць "па-старому". Нават калі самі асабіста не прыналежылі яны да структуры старой улады, фактычна не зьяўляюцца яе працаўнікамі. Нацыянальная сьвядомасьць большасьці дэпутатаў таксама не перавышае сярэдняй. Таму асаблівага прагрэсу ў беларусізацыі нельга спадзявацца, можа апрача гміны Гарадок. Рады беларускіх гмінаў могуць пачаць праводзіць істотныя зьмены ў формах нацыянальнага жыцьця толькі ў выпадку рашучай ініцыятывы, а нат кіраўніцтва "з гары". Тым часам БДА, пакуль што, такога кіраўніцтва не стварае. Наогул магчымасьць такога кіраўніцтва выдаецца мала праўдападобным, паколькі партыя з прынцыпу не выпрацоўвае цэнтралістычнай арганізацыі, а партыйная дысцыпліна наогул не існуе, нават як паняцце.

Што можна сказаць пра будучыню? Новая ўлада, у шырэйшым чымсьці беластоцкі кантэксьце, будзе накіроўваць сваю энэргію на зьнішчэньне старой, нянавістнай ёй сыстэмы. На Беласточчыне першай ахвярай станецца беларуская частка намэнклатуры, а затым у пэўнай меры і ўсё беларускае насельніцтва. Мала ёсьць надзеі на паляпшэньне эканамічнага становішча. Павысіцца беспрацоўе, збанкрутуе шмат малых гаспадарак. Псыхалагічна, беларусы адчуюць сябе найбольш пакрыўджанымі. Як апазыцыя да эндэцкіх схільнасьцяў улады,будзе вырастаць беларускі нацыяналізм. Падзеі за мяжой у напрамку дзяржаўнай незалежнасьці будуць магутным стымулятарам для ўзбуджэньня нацыянальнай сьвядомасьці на Беласточчыне.

Праз чатыры гады беларускае грамадства павінна быць больш сьвядомым, больш згуртаваным і больш схільным да радыкальных нацыянальных лозунгаў. Вырасьце разачараваньне да палітыкі ўладаў. Адначасова, зьменшыцца страх перад дзяржавай. Страціць сваё грамадскае значэньне намэнклатура. Актыўны ўдзел у жыцьці пачне прыймаць адукаваная моладзь, з нацыянальнаю сьвядомасьцю сфармiраванай у студэнцкай дзейнасьці. Нават калі будуць гэта нешматлікія адзінкі, стануцца яны новымі лідарамі беларускага нацыянальнага руху. У наступных выбарах выступіць супроць палякаў ужо не старая намэнклатура, але маладая нацыянальная сіла падтрыманая нездаволеным насельніцтвам, а магчыма, што і з дапамогай незалежнай Беларускай Рэспублікі.

**********************************

Віктар Мароз

## У кааліцыі з крывадушнікамі

У трэцім нумары "КАНТАКТУ" я выказаў ціхую надзею,што царква першы раз у гісторыі праваслаўя ў Польшчы можа быць з народам, а не з уладай. Быў такі момант, што ў гэта паверылі нават найбольшыя рэалісты на Беласточчыне.

Пасля першага кангрэсу Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднання, калі ў польскай прэсе з'явіліся разюшаныя, шавіністычныя атакі на ўсё беларускае, з царкоўнага боку выйшла прапанова супрацоўніцтва ў выбарах у самаўрады, а архіепіскап Сава прыняў кіраўніцтва беларускай партыі. Пад час гэтай сустрэчы дайшло да поўнага паразумення адносна мэт супольнай палітычнай дзейнасці БДА і беластоцкай епархіі.

Да супрацоўніцтва з царквой імкнулася перад усім беларуская інтэлігенцыя, перакананая ў тым, што "лёс Праваслаўнай царквы ў Польшчы і лёс беларусаў - гэта той самы лёс". У палавіне лютага г.г. абодва бакі былі згодныя і разумелі супольнасць інтарэсаў. Усё паказвала на тое, што альянс будзе трывалым.Прыгадаем, што таксама было вясной 1989 г. перад выбарамі ў сойм і сенат.

"Афіцыйна - заявіў дзеячам БДА ўладыка Сава - царква не можа выступіць як палітычная сіла, яе прадстаўніком будзе Царкоўнае Брацтва". Мэтай супрацоўніцтва мела быць дабро праваслаўнага веравызнання і беларускага народа. Калі заўважым, што на Беласточчыне амаль усе беларусы гэта праваслаўныя і наадварот, то такая кааліцыя ставалася вынікам натуральнай патрэбы і чыстай логікі інтарэсу.

З перспектывы часу відаць, якімі наіўнымі былі маладыя беларускія палітыкі. Яны кіраваліся толькі логікай і патрэбай сэрца, забываючыся пра ірацыянальныя фактары і перш за ўсё пра пункт гледжання кааліцыйных партнёраў.

Калі 15 лютага дзеячы БДА прыбылі на першую сустрэчу з Праваслаўным Брацтвам, як афіцыйным прадстаўніком архіепіскапа Савы, то ў сядзібе гаспадара сустрэлі былых актывістаў развязанай Камуністычнай партыі /цяпер - "сацыялдэмакратаў"/,прадстаўнікоў польскай Хрысціянскай уніі і Украінскага Грамадска-Культурнага Таварыства. Згодна з ранейшымі паразуменнямі з уладыкай Савай і кіраўніцтвам Брацтва, беларусы прыйшлі з добрай воляй паклікаць Беларускі Выбарчы Камітэт, які меў правесці выбарчую кампанію ў самаўрады. Аднак, замест сур'ёзных партнёраў, яны засталі тут усякай масці дэгенератаў. Адныя, якіх павыганялі з дзяржаўных пасад шукалі грамадскай базы, каб недзе зачапіцца, другія ж як ашалелыя ганяліся па Беласточчыне і пераконвалі сялян,што зямля на якой жывуць ужо ад пятага стагоддзя была ўкраінскай і таму яны павінны стаць ўкраінцамі. Сітуацыя камуністаў і "ўкраінцаў"

была падобная - i адны i другiя шукалi грамадскай апоры.

Украiнскi рух на Беласточчыне паявiўся ў палове 80-х гадоў як супроцьбеларускi фактар. У палiцэйскай практыцы гэта не было навасцю. Ужо перад вайной у беларускiх асяроддзях ствараліся такiя "нацыянальнасцi", як "праваслаўныя палякi", "паляшукi","тутэйшыя" i iншыя, а ўкраiнцы мелi тады сваiх "бойкаў", "гуцулаў" i г.д. Калi на Беласточчыне пачалося адраджэнне беларускага нацыянальнага руху,хутка выявiлiся спробы раскалоць гэты рух шляхам унутранай антаганiзацыi грамадства. Пад час летнiх выбараў у сойм кандыдата "украiнцаў" Мартынюка, якi выступаў пад неакрэсленай нацыянальна шыльдай "праваслаўны", падтрымоўваў не толькi царкоўны апарат - уладыка Сава, святары, Брацтва i Унiя Чыквiна, але цiшком i палiтычная палiцыя.

З'яўленнем "украiнцаў" на Беласточчыне захапляюцца палякi. Яны бачаць у iх збаўчую сiлу, якая можа разбiць беларускi палiтычны рух. Для палякаў асаблiва карысным з'яўляецца тое, што "украiнцы" рэдка выступаюць пад сваiм нацыянальным сцягам. Найчасцей паклiкаюць яны такiя структуры, якiя не адлюстроўваюць сучаснай нацыянальнасцi /"рускi", "русiнскi", "пiдляшскi","праваслаўны"/. У сакавiку ў найбольш антыбеларускай беластоцкай газеце "Кур'ер Поранны" амаль штодзень з'яўлялiся весткi аб паклiканнi на Бельшчыне нейкiх "рускiх", "русiна-украiнскiх"i т.п. выбарчых камiтэтаў. I няважна, што ў такiм камiтэце часта была толькi адна асоба i нiхто з жыхароў вёскi не ведаў аб яго стварэннi - гэтага было дастаткова для таго, каб палякi крычалi: "шчыра вiтаем братоў украiнцаў i цешымся з iх палiтычнай актыўнасцi". Чытач такога "Кур'ера", не ведаючы ў чым справа, мог бы падумаць, якiя ж тут талерантныя палякi жывуць! Цiкава толькi, цi ў такiм Пярэмышлi таксама вiталi ўкраiнцаў?

Што датычыць "украiнцаў", раз толькi адзiн з лiдэраў гэтага новага руху адкрыта сказаў аб мэтах iх дзейнасцi. У iнтэрв'ю для салiдарнiцкай "Гайнаўскай Газеты" /2.3.1990/ старшыня Украiнскага таварыства С. Брэнько заявiў: "найлепш будзе, калi наступiць поўная асiмiляцыя, згодна з духам веры хрысцiянскай".Гэта магло падабацца кожнаму паляку, бо калi ўжо асiмiляцыя, то вядома, што ў польскай культуры. Брэнько з лакейскай паслужлiвасцю гаварыў: "у Гайнаўцы 70% жыхароў гэта палякi, а астатнiя - паляшукi - частка ўкраiнскага народа i некалькi працэнтаў беларусаў". Да гэтага "адкрыцця" заўважым, што нават палякi гавораць толькi пра 50% сваiх у гэтым горадзе, а пра паляшукоў да гэтай пары ўвогуле нiхто не згадваў.

Я даволi шырока распiсаўся пра т.зв. украiнцаў, каб паказаць якога палiтычнага партнёра прапанаваў беларусам уладыка Сава. Аказалася, што калi беларусы раз былi прыняты архiепiскапам, то "украiнцы" гаварылi з iм ужо дзесяць разоў. Яны проста бегалi да яго, як да свайго дзядзькi, бо ён жа сапраўды ўкраiнец. Пры гэтым трэба зразумець i логiку каланiяльнай палiтыкi дзяржавы. Сярод праваслаўных епiскапаў у Польшчы ёсць чатырох беларусаў, аднак для Беластоцкай епархii епiскапам установiлi ўкраiнца. Пiшу "установiлi", паколькi згодна з юрыдычнымi ўста-

ноўкамі, фактычна найвышэйшай уладай над Праваслаўнай царквой з'яўляецца дзяржаўны урадпік - міністр, дырэктар ці ім падобны.

Калі на гэтым сходзе прадстаўнікі БДА запрапанавалі супрацоўніцтва толькі Царкоўнаму Брацтву і стварэнне супольнага Беларускага Выбарчага Камітэта, спаткаліся з дзікім крыкам "партнёраў". Нягледзячы на ранейшыя размовы, кіраўнік дэлегацыі Брацтва Ян Міўнік, а пасля Мікалай Ваўранюк /не мяшаць з аднайменнікам, салідным дзеячам БАС-у - рэд./ безупынна паўтаралі: "ёсць сярод нас палякі, рускія і нават адзін грэк, а цяпер дайшлі і украінцы, таму не можам прыняць слова "беларускі", мы - проста праваслаўныя". Адначасова прапанавалі кур'ёзныя назвы кмітэта- "грамадскі", "меншасны", каб толькі не "беларускі" ці "праваслаўны". Галоўнай ідэяй Брацтва было жаданне канспіравацца перад палякамі, г.зн. паводзіць сябе па-ранейшаму, выступаць як бліжэй неакрэсленыя тубыльцы. Становішча Брацтва змянілася м. інш. і таму, бо перад сустрэчай з беларусамі беластоцкая "Салідарнасць" запрапанавала архіепіскапу Саве палітычнае супрацоўніцтва. А калі ўлада прапануе, варта задумацца...

На сустрэчы быў таксама пасол Чыквін. Гэтым разам ён паводзіў сябе як патрыярх. Чыквін гаварыў: "Царква не можа згадзіцца", "Царкве гэта не адпавядае", "мы на акцэптацыю беларускасці ў царкве ніколі не згодзімся". Як кажуць удзельнікі сустрэчы, выглядала гэта так, быццам Чыквін і Брацтва гэта царква. А мне ўсё здавалася, што царква гэта народ. Магчыма, я памыляўся.

Паўстае пытанне, чаму дзеячы БДА працягвалі размову з гэтымі кашмарнымі дзівакамі, хаця глядзелі на іх, як на ненармальных. Большасць беларускай дэлегацыі была за тым, каб не дапусціць да барацьбы паміж царкоўным апаратам і беларускай інтэлігенцыяй, паколькі скарыстала б з гэтага толькі трэцяя сіла. Беларусы згадзіліся нават трактаваць "украінцаў" як роўных партнёраў, без якіх царкоўныя прадстаўнікі не бачылі ніякой кааліцыі. Памятаючы аб тым, што адбывалася перад парламенцкімі выбарамі, калі Царква, Брацтва, "украінцы" і Хрысціянская Унія Яўгена Чыквіна распаўсюджвалі весткі, што Сакрат Яновіч - агент "Салідарнасці", а Яўген Міраловіч - агент Ватыкану, беларускія дзеячы былі перакананы, што такімі ж амаральнымі метадамі, хлуснёй і правакацыяй будуць яны змагацца і далей.

Вось жа на пачатку сакавіка ў Бельску паказаліся польскамоўныя лістоўкі, напісаныя ардынарнай, прымітыўнай мовай, у якіх нікому невядомае "Сацыялістычнае згуртаванне абароны беларусаў" заклікала ўсіх беларусаў арганізавацца супроць палякаў. Хто быў аўтарам гэтай адозвы? Найбольш гаворыцца пра "украінцаў", м. інш. і таму, што некаторых фармулёвак цяжка было б дашукацца ў лексіцы польскага шавініста. Да рэчы, уся прапаганда "украінцаў" ішла ў напрамку кампраметацыі беларусаў. У гэтым выкарыстоўвалі яны і польскую прэсу, якая, зразумела,заўсёды гатовая была ім служыць.

З увагі на тое, што Царкоўнае Брацтва катэгарычна адкідала назву "Беларускі Выбарчы Камітэт", удзельнікі кааліцыі пастана-

вілі арганізаваць розныя мясцовыя камітэты - беларускія, "рус - кія", "грамадскія", якія, паводле патрэбы, мелі ствараць кампраміісы ў гмінах. Рашылі таксама выдаць супольную адозву да праваслаўнага насельніцтва ў Польшчы, заклікаючую яго да ўдзелу ў выбарах.

26 лютага, калі яшчэ адбываліся перагаворы паміж беларусамі і Брацтвам, "Кур'ер Поранны" змясціў інфармацыю Яна Квасоўскага аб сустрэчы кіраўніцтва Грамадзянскага Камітэта "Салідарнасці" з уладыкам Савай. Як я ўжо пісаў у трэцім нумары "КАНТАКТУ", шэф гэтага камітэта, Лебэнштайн, у снежні 1989 г. заявіў, што не бачыць магчымасці супрацоўніцтва з якімі-небудзь беларусамі, толькі з праваслаўнымі святарамі. Яго аргументы былі такія: "праваслаўныя духоўныя супрацоўнічалі з санацыяй і камуністамі, будуць супрацоўнічаць і з намі, калі ўжо маем уладу". Квасоўскі пісаў, што уладыка Сава благаславіў святароў на дзейнасць у "Салідарнасці" і заявіў, што не будзе супрацоўнічаць з "беларускімі нацыяналістамі" /чытай - беларусамі/. На другі дзень уладыка Сава ў размове з дзеячамі БДА не прызнаўся да таго, аб чым пісаў Квасоўскі, аднак ніколі не здэментаваў ягонай інфармацыі ў "Кур'еры".

24 лютага паўстаў у Беластоку Беларускі Выбарчы Камітэт, які імкнуўся выставіць сумесны з Брацтвам спіс кандыдатаў у гарадскую самаўправу. Як мне гаварылі дзеячы БДА, першая сустрэча з кандыдатамі Брацтва выклікала шок. Адзін безупынна паўтараў : "якія ж мы беларусы, калі жывем у Польшчы?", а другі: "мы ўсе праваслаўныя, свае людзі, а якой нацыянальнасці - мы не ведаем, гэта няважна". Зноў трэці /здаецца, большасць так думала/ плёў: "навошта нам выступаць пад назвай "беларускі" ці "праваслаўны"- паглядзіце толькі, што робіцца ў Румыніі; палякі такія ж дзікія азіяты, як румыны". "Хітрасць" беларускага мужыка падказвала ім не адрозніваццa ад натоўпу, сядзець ціха, а калі ўжо выступаць, то толькі як штосьці неакрэсленае.

Дзякуючы такой філасофіі, пры камуністах гэтыя людзі маглі шмат чаго дабіцца. Як лаяльныя ў аносінах да ўлад яны ставаліся дырэктарамі, старшынямі, партыйнымі сакратарамі, высокай рангі ўраднікамі. Час змяніўся, але гэтыя людзі засталіся такімі,якімі былі дзесяткі гадоў таму - з душой прыгоннага мужыка, які патрабуе пана і будзе задаволены панскай падачкай за сваю верную службу. Такія вось людзі спадзяваліся стануць да выбарчай канфрантацыі з палякамі ў атмасферы разшалелага польскага шавінізму. Не здзіўляюся, што Сакрат Яновіч, пасля гэтай сустрэчы ледзь давалокся да дому. Ведаю, што даволі паслухаць такіх "выдатных" людзей, як дырэктара Мікалая Ваўранюка, інжынера Аляксея Мулярчыка, пасла Яўгена Чыквіна, паэта Мікалая Гайдука, інжынера Яна Сухадолу ці дацэнта Яна Піўніка, каб нічога не піўшы выйсці зусім п'яным, змучаным, прыбітым. Гэты кампраміс, на які рашыліся дзеячы БДА, здаецца,каштаваў іх нямала...

Урэшце, 31 сакавіка быў створаны ў Беластоку "Каалiцыйны Выбарчы Камітэт" / больш адпаведнай была б назва "Калабарацыйны"/

У яго складзе знайшліся прадстаўнікі Брацтва, БАС-у, БДА. Камітэт выставіў супольны спіс кандыдатаў, які дзеячы БДА апублікавалі ў польскай прэсе. Сярод дзеячаў Брацтва закіпела.Яны думалі прапагандаваць кандыдатаў толькі ў цэрквах, не паказвацца палякам, словам - поўная канспірацыя, а тут такое няшчасце!..Дзеячы Брацтва напісалі ў "Газеце Всполчэснай" /26.4.1990/ заяву і паяснілі, што яны хацелі б быць райцамі, бо ведаюць як зрабіць шчаслівымі ўсіх жыхароў Беласточчыны, аднак далі зразумець, што не маюць нічога супольнага з ні з беларускасцю, ні з праваслаўем.

Не менш цікавая была канфрантацыя з "украінцамі" у гмінах. 13 сакавіка на сустрэчу мясцовага беластоцкага выбарчага камітэта прыехала пяць "украінскіх" актывістаў. Яны крычалі і тупалі нагамі пратэстуючы супроць адозвы Беларускага Выбарчага Камітэта. Адзін з іх, нейкі малады чалавек, смяяўся і крывіўся як малпа ў клетцы, калі выступалі беларусы. Цяжка сядзець за адным сталом з малпамі, калі няма дрэсіроўшчыка. Відавочна такое захаванне было ім даспадобы, бо пасля гэтай сустрэчы яны ездзілі на ўсе сходы Беларускага Выбарчага Камітэта, сядалі сярод жыхароў вёскі, крычалі і вылі, калі выступаў ягоны прадстаўнік. На сходзе ў Орлі, які адбыўся 15 сакавіка, яны да таго абрыдлі жыхарам, што іх проста выкінулі з залы.

У красавіку "украінцы" змянілі тактыку. У той час,калі беларусы арганізоўвалі па ўсёй Беласточчыне сходы жыхароў вёсак, на якіх сяляне выбіралі кандыдатаў у гмінныя самаўправы,то "украінцы" наведвалі нейкага аднаго чалавека ў вёсцы, прадстаўляліся як т.зв. "нашыя людзі" і прапанавалі яму кандыдаваць. Калі гаспадар згаджаўся, яны хутка афармлялі рэгістрацыю. Найчасцей такі кандыдат нават не ведаў, што ён зарэгістраваны яу украінец. Такім спосабам яны змаглі выставіць дзесяткі кандыдатаў у гмінах Бельскай акругі.

Паўстае пытанне, ці варта ствараць кааліцыі з амаральнымі і палітычна ненадзейнымі элементамі? На маю думку, цяпер іншага выхаду не было. Калі б беларусы пачалі барацьбу паміж сабою,давялі б толькі да сваёй палітычнай смерці. Памятайма, што кааліцыйныя партнёры гэта ж таксама нашыя беларускія людзі, якім патрэбнае не толькі спачуванне, але і дапамога ў здабыцці чалавечай годнасці. Калі яны будуць людзьмі і перастануць быць халопамі - будуць і беларусамі. Аднак на тое патрэбны цярпліваць і праца. Магчыма, што калі б нехта ў свой час дапамог Яўгену Чыквіну, сёння быў бы ён добрасумленным чалавекам, а не крывадушнікам і калабарацыяністам, які толькі кампраметуе народ,да якога часам прызнаецца.

Можна сумнявацца, ці ў будучыні БДА будзе арыентавацца на падобныя кааліцыі. Усё ж застаецца адкрытым пытанне, куды нас накіруе тая будучыня? Ці раздавіць нас паліцыя акупантаў з дапамогай нашых дэгенератаў, а польскі шавінізм затопча нашу годнасць, ці маладое пакаленне зможа супроцьставіцца гэтым імкненням нашых "братоў і прыяцеляў"?

**********************************

Вядзьмак Менскі

### ВАРТАЎНІКАМ ГУЛАГУ
альбо
### ТУТЭЙШАЙ ВАНДЭІ

У Галкоме партыі
Вандэеўцы ўпартыя.
"Бо для іх перабудова -
гэта здрада Гарбачова"
іхняй д'ябальскай тыраніі
на касьцях былой Расіі -
Праваслаўнай.. Іншаслаўнай...,
як і ў іх - Самадзяржаўнай...

Вера - новая ў Вандэі.
Вось - асноўныя "ідэі":

"... грамадзяне - нашы зэкі.
Хай мяняюцца Генсэкі -
толькі МЫ, НАМЕНКЛАТУРА,
партакратаў дыктатура
будзем вечна правіць сьветам:
селянінам і паэтам,
і рабочым і вучоным... -
тым натоўпам незьлічоным...
А як хто захоча ськінуць
нашу УЛАДУ - тыя зьгінуць
у астрозе, у дурдоме,
у застрашаным садоме..."

Не, Вандэя, - мы ня зьгінем!
Бог народ наш - не пакіне!

За жыцьцё мы будзем біцца
І на вёсцы, і ў сталіцы...

Уваскросьне наша Памяць
Уваскросьне наша Мова...
І уздымецца над намі
Жыцьцядайны Крыж - нанова!

### МАНАЛОГ РОЎНААПОСТАЛЬНАГА КНЯЗЯ УЛАДЗІМІРА - ПРАЗ 10 ВЯКОЎ

/Партыі мафіёзнага атэізму/

-Пашлюбаваліся - і годзе,
чарую - каб нячысты зьлез:
пад сонейкам Тысячагоддзя
я ахрышчу... КПСС!..

## ПРЭАБРАЖЭНЬНЕ

... ніводнаму з Саўлаў
Хрыстос не замінае
стаць Паўлам...

Т а м хрыбет паламалі нячыстаму
У 45-м. Т у т - толькі цяпер.
Мы пакаемся, людцы, мы - выстаім.
I - сканае паранены з ь в е р.

Ды, канаючы, ён угаворвае -
каб ня верылі Продкам сваім...
каб працягвалі т у ю гісторыю,
што адплоднена й "хрышчана" ім...

Годзе! Зь бесам мы болей ня згодзімся -
хай завецца ён "Маркс"... ці "Фур'е"...
Мы адродзімся, людцы, адродзімся!
Дасьць Гасподзь, як "яны" - ў ФРГ!..

## МЕНСК - БЕЛАРУСЬ
## 25 ЛЮТАГА - 4-17-25 САКАВІКА 1990 г.

100-тысячны мітынг: "Далоў, Сакалоў!
Далоў мафіёзную ўладу!"
I рэха паўсюднае кліча: "Далоў!
Уладу - Народным Радам!"

Жыві,
Беларусь!
I - каб вольнай быць -
на выбарах ладзь хаўтуры
тым,
хто на карку народным сядзіць:
ПАРТЫЙНАЙ НАМЕНКЛАТУРЫ!

## ХРЫСТОС I АЙЧЫНА

Раскрыжаваньне кат завершыў...
аблашчыў кужаль кроў Жыцьця...
так: Плашчаніца - гэта Першы
мой Бел-Чырвона-Белы Сьцяг!..

/Выбраныя вершы са зборніка Вядзьмака Менскага "Сказ пра бясоўскі палон", выпуск якога рыхтуецца ў выдавецтве КАНТАКТ/

# Г І С Т О Р Ы Я

Юры Туронак

## Загадка смерці Францішка Аляхновіча

Пад час нямецкай акупацыі з рук скрытых забойцаў загінула шмат беларускіх палітычных, культурных і рэлігійных дзеячаў. Сярод іх - Францішак Аляхновіч, Вацлаў Іваноўскі, Уладзіслаў Казлоўскі, Юліян Саковіч, Леанід Маракоў, каталіцкія духоўныя Станіслаў Глякоўскі, Вінцэнт Гадлеўскі, Антон Неманцэвіч, праваслаўныя духоўныя Аляксандр Коўш, Іван Аляхновіч і іншыя.

Калі раней, пры савецкай уладзе, бадай усе ахвяры рэпрэсій можна запісаць на рахунак НКВД, то ва ўмовах нямецкай акупацыі ў гэтых адносінах становішча было далёка неадназначным. Беларускія нацыянальныя дзеячы былі соллю ў вачах не толькі савецкага і польскага падполляў, якія імкнуліся аднавіць сваю ўладу ў Беларусі. Яны гінулі таксама ў засценках СД і нямецкіх канцлагераў, м. інш. у выніку правакацыйных даносаў савецкіх, польскіх і нават беларускіх дзеячаў, якія такім чынам, г. зн. нямецкімі рукамі, імкнуліся пазбыцца ідэйных канкурэнтаў.

Выяўленне інспіратараў і выканаўцаў скрытых забойстваў — справа вельмі складаная, а ў некаторых выпадках безнадзейная. На прыклад, акалічнасці замаху на Іваноўскага, які адбыўся 6 снежня 1943 г. у Менску. Сабраны аўтарам вялікі матэрыял /прэса, успаміны, паказанні сведкаў/ доўгі час не даваў падставы для адназначнага вываду, у сувязі з чым цяжка было аспрэчваць версію Івана Новікава, выказаную ў яго "дакументальнай" аповесці <u>Дарогі скрыжаваліся ў Мінску</u> аб тым, што ініцыятарам і выканаўцам забойства быў партызан Аляксандр Камінскі. І толькі нечаканая шчаслівая архіўная знаходка дазволіла ўстанавіць, што ўжо 22 лістапада 1943 г. /г. зн. два тыдні раней!/ начальнік СС і паліцыі Беларусі фон Готберг ведаў аб рыхтуемым замаху, які паводле яго слоў, выканаюць "самыя беларусы". А гэта сведчыць аб тым, што згаданы "герой падполля" быў агентам менскай паліцыі і выконваў яе загады.

Акалічнасці скрытых забойстваў у час акупацыі патрабуюць салідных доследаў, свабодных ад такой ці іншай палітычнай накіраванасці. На жаль, да гэтай пары, нашыя гісторыкі кіраваліся іншым прынцыпам, а менавіта да множання любымі сродкамі радоў "герояў падполля" і іх "подзвігаў" у вынішчанні беларускіх нацыянальных дзеячаў. Такім чынам, акрамя Іваноўскага, на рахунак "народных мсціўцаў" запісваліся Гадлеўскі і Саковіч, з якіх першы быў знішчаны гестапаўцамі, а другі - палякамі на Лідчыне.

Апошнім часам з'явілася ў друку некалькі артыкулаў пра гэтага выдатнага беларускага драматурга, ягонае жыццё, творчасць

і перапахаванне на віленскіх Росах. Вядома, закраналася і справа смерці Аляхновіча. Цікава заўважыць, што калі Віктар Сенкевіч у амерыканскім "Беларускім Сьвеце" /1988, № 20/ і Хведар Нюнька ў "Чырвонай Змене" / 16.12.1989/ пісалі, што быў ён забіты савецкім падпольшчыкам, то Лявон Крыніцкі ў сваім артыкуле апублікаваным у беластоцкай "Ніве" /14 і 21 студзеня 1990/ заўважыў, што Аляхновіч загінуў "ад рукі невядомага тэрарыста ў нявысветленых абставінах".

Маючы на ўвазе справу забойства Іваноўскага, нельга ігнараваць гэтыя разыходжанні. Праўда, Нюнька паўтарыў здаўна распаўсюджаную версію, аднак, так як і ранейшыя аўтары, не прадставіў доказаў гэтай версіі і нават не спасылаўся на такія доказы. З публікацыі гэтага аўтара можна зрабіць вывад, што ўся справа даўно і канчаткова высветлена, выршана і яе перагляд непатрэбны. Аднак выказванне Крыніцкага інтрыгуе і заахвочвае праверыць верагоднасць гэтай традыцыйнай версіі забойства Аляхновіча.

Францішак Аляхновіч - выдатны драматург, аўтар кнігі <u>У капцюрох ГПУ</u> /Вільня 1937/, рэдактар "Беларускага Голасу" у акупіраванай немцамі Вільні быў забіты 3 сакавіка 1944 г. у Вільні ананімным тэрарыстам стрэлам з пісталету ў галаву. Аб гэтым забойстве неадкладна паведамілі віленскія, а за імі менскія газеты і берлінская "Раніца". У паведамленнях падкрэслівалася, што "гэтае новае подлае забойства чырвонай Масквы яшчэ раз сведчыць аб тым, што бальшавізм імкнецца фізічна вынішчыць лепшых змагароў за незалежнасць Беларусі".

Беларускае грамадства, якое добра ведала аб тэрарыстычных дзеяннях савецкіх партызанаў, у тым ліку аб спаленых імі школах, забітых настаўніках, ці сялянах, якія выконвалі абавязковыя пастаўкі сельскагаспадарчых прадуктаў, мела ўсе падставы паверыць паведамленню кантраляванай немцамі прэсы аб забойстве Аляхновіча маскоўскімі агентамі. Гэта было так несумненна, як несумненна пасля ночы наступае дзень.

Усё ж гэтыя аксіяматычныя паведамленні, распаўсюджваныя зараз жа пасля забойства без папярэдняга следства, відаць, не задавальнялі дзеячаў Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Вільні, якія ведаючы складанае становішча ў гэтым горадзе і ваколіцы імкнуліся атрымаць ад нямецкіх улад больш канкрэтную звестку аб забойстве Аляхновіча. Праз нейкі час такая звестка сапраўды была атрымана, аб чым шмат пазней паведаміў тагачасны старшыня БНК доктар Баляслаў Грабінскі, як наступае:

> "Пасля немцы з Гебітскамісарыяту сказалі нам, што забойца быў злоўлены і зліквідаваны. Гэта быў, быццам бы, камуніст, з тыповым лятувіскім прозвішчам, прысланы з Налібоцкае пушчы на загад Масквы. Ці сапраўды савецкі агент быў злоўлены, ці немцы выдумалі гэтую версію, мы не былі пэўныя" /"Беларус", сакавік 1984/.

Гэтая інфармацыя віленскага Гебітскамісарыяту па сутнасці не адрознівалася ад ранейшых цьмяных паведамленняў у газетах,

аднак адзін яе аспект заслугоўвае на ўвагу. Вось жа, у той час, калі нямецкая паліцыя ў Вільні не скрывала прозвішчы прыгавораных да расстрэлу крымінальных злачынцаў ці ворагаў акупацыйнага рэжыму, прозвішча забойцы Аляхновіча, які быццам бы быў злоўлены, ніколі не было выяўлена. Проста неверагодна, што немцы свядома адмовіліся ад выкарыстання гэтага факта ў антысавецкай прапагандзе, які мог бы выдатна падмацаваць пададзеную ў газетах версію. Такім чынам, сумненні дзеячаў БНК у тым, што агент быў арыштаваны, ідэнтыфікаваны і пакараны можна лічыць абаснаванымі. На гэта паказвае і адсутнасць адноснай дакументацыі ў архіўных фондах віленскіх паліцэйскіх і цывільных акупацыйных улад.

Пасля вайны справа забойства Аляхновіча не экспанавалася беларускімі савецкімі гісторыкамі і пісьменнікамі. Затое больш увагі ёй прысвячалі эміграцыйныя публіцысты, якія, як правіла, паўтаралі нямецкую версію і дапаўнялі яе "новымі акалічнасцямі". Раман Шарупіч "устанавіў" нават прычыну забойства, якой мелася быць выяўленне Аляхновічам праўды пра савецкія канцлагеры,прадстаўленай у ягонай кнізе У капцюрох ГПУ /"Беларус",снежань 1973/ Такі погляд выказаў і Віктар Сенкевіч у цытаваным "Бел.Сьвеце". "Удакладняліся" інфармацыі і пра "маскоўскага агента". Паводле польскага пісьменніка Юзэфа Мацкевіча, забойца карыстаўся "чыстай беларускай мовай", што чула жонка Аляхновіча /Ю. Мацкевіч, Не тшэба глосьно мувіць, Лондан 1985, с.273/.

Усе гэтыя весткі ўплывалі на фарміраванне грамадскай апініі не толькі на эміграцыі, але і на бацькаўшчыне, аднак бліжэйшы іх аналіз дазваляе выказаць істотныя сумненні адносна іх праўдзівасці. Аляхновіч сапраўды баяўся помсты НКВД за сваю кнігу, у сувязі з чым у чэрвені 1940 г., напярэдадні акупацыі Літвы Чырвонай Арміяй, імкнуўся перайсці на акупіраваную немцамі тэрыторыю, аднак без неабходных дакументаў не быў прапушчаны нямецкімі пагранічнікамі /Язэп Малецкі,Пад знакам Пагоні, Таронта 1976, с.33/. У выніку Аляхновіч вярнуўся назад і цэлы год жыў у савецкай Літве, аднак рэпрэсіраваны не быў. Праўда, крыху пазней, ужо пад нямецкай акупацыяй, ён пісаў, што цэлы год хаваўся і гэта яго выратавала ад арышту, аднак цяжка паверыць, каб на працягу цэлага года НКВД не змагло схапіць шуканага чалавека. А гэта дазваляе меркаваць, што тады Аляхновічам асабліва не цікавіліся.

Неверагоднае і выказванне Мацкевіча пра мову забойцы, на што звярнула ўвагу Раіса Галяк /"Беларуская Думка", 1984, № 29, с. 37/. Вось адпаведнае сведчанне жонкі Аляхновіча, апублікаванае Грабінскім у цытаваным нумары "Беларуса":

> "У пятніцу, позна вечарам, я адчыніла ўваходныя дзверы на званок і ўвайшоў чалавек векам каля трыццаткі, у кароткай куртцы. Я думала, што нехта з беларусаў, бо я знала толькі нямногіх. Дзіўна толькі выдалася мне, што ён не прамовіў ні слова /падкр. - Ю.Т./, каб прывітацца. Ад дзвярэй можна было бачыць Францішка за бюркам у малым пакоіку. Чалавек, якога я ўпусціла,скора падыйшоў да бюрка, выстраліў колькі разоў і хутка выйшаў. Усё гэта трывала некалькі хвілін".

У святле гэтага сведчання выказванне Мацкевіча пра "чыстую беларускую мову", якой карыстаўся забойца, можна было б лічыць літаратурнай фікцыяй, калі б не адна акалічнасць. Вось жа ў 1970 годзе ў эміграцыйным часопісе "Веча" /№ 9, с.6/ Янка Станкевіч, выступаючы пад псеўданімам Давідовіч Гор, выказаў погляд,што Аляхновіча забіў не "маскоўскі агент", але дзеячы польскага акоўскага падполля за тое, што рэдагаваны ім "Беларускі Голас" змяшчаў спісы беларусаў забітых акоўцамі на Лідчыне. У такім выпадку Мацкевіч, хаця няраз асуджаў А.К. за супрацоўніцтва з немцамі, мог быць зацікаўлены дэзінфармацыяй.

Выпадае заўважыць, што прадстаўленая Станкевічам версія забойства не пашыралася ў эміграцыйным друку, як беларускім, так і польскім. Магчыма, лічылася яна неверагоднай, або не ўкладвалася ў пажаданую схему. Усё ж гэтая версія заслугоўвае на ўвагу, хаця б па той прычыне, што Янка Станкевіч, як дзеяч БНК у Вільні,старшыня падпольнага Беларускага Нацыянальна-Дэмакратычнага Аб'яднання і удзельнік перагавораў з Галоўным Камандаваннем А.К., добра арыентаваўся ў тагачасных падзеях на Віленшчыне. Акрамя таго, якраз Станкевіч падрыхтоўваў спісы ахвяр акоўскага тэрору на Лідчыне, якія друкаваліся ў "Беларускім Голасе" /Л.Галяк, Успаміны, ЗША 1982, ч.I, с.176/. А гэта значыць, што ён меў блізкае дачыненне да разглядаемай справы.

Выяўленне злачынстваў Арміі Краёвай у адносінах да беларускага насельніцтва супярэчыла інтарэсам польскага надполля, у сувязі з чым можна яго разглядаць, як матыў забойства. Верагоднасць версіі Станкевіча падмацоўвае яшчэ і той факт, што выяўленнем гэтых злачынстваў не былі зацікаўлены і немцы, якія пастаўлялі зброю некаторым акоўскім фарміраванням,м. інш. на Лідчыне, для барацьбы з савецкімі партызанамі. Таму невыпадкова чыноўнікі віленскага Гебітскамісарыяту пускалі дзеячам БНК дым у вочы і накіроўвалі іх увагу на ўяўнога бальшавіцкага агента, што, дарэчы, у вялікай меры ім удалося.

Вясной 1944 г. немцы імкнуліся наладзіць палітычнае супрацоўніцтва з палякамі ў Вільні і прыцягнуць фарміраванні А.К. да сумеснай абароны гэтага горада перад Чырвонай Арміяй. Гэтыя абумоўленні ўплывалі на мадыфікацыю іхняй прапаганды, у якой экспанаванне акоўскіх злачынстваў было ўжо непажаданым. Таму неўзабаве "Беларускі Голас" быў вымушаны спыніць публікацыю спісаў беларусаў забітых на Лідчыне. Па гэтай самай прычыне не быў надрукаваны артыкул Янкі Станкевіча пра становішча ў Лідскай акрузе, у якім аўтар пісаў пры тысячы ахвяр польскага тэрору. Гэты артыкул захаваўся на эміграцыі і толькі ў 1985 г. быў апублікаваны ў "Летапісе беларускай эміграцыі" / жнівень 1985, № 28/.

На карысць версіі Станкевіча сведчыць яшчэ адна акалічнасць. Калі б забойства Аляхновіча было выканана савецкім падполлем, то можна было б выявіць адпаведную дакументацыю. Тым часам, як устанавіў Васіль Быкаў, у архівах праваахоўчых органаў БССР адсутнічаюць звесткі пра судзімсць і лёс Аляхновіча /"ЛіМ" 7.10.1988/.

Нягледзячы на большую верагоднасць версія Станкевіча таксама не з'яўляецца доказам. Аднак,улічваючы прадстаўленыя акалічнасці, гэтая версія дазваляе засумнявацца ў верагоднасці выказванняў тых аўтараў, якія выканаўцам забойства лічаць савецкага агента. Такім чынам, пакуль не знойдуцца дакументальныя доказы, смерць Францішка Аляхновіча будзе заставацца загадкай.

********************************

Лямец

## Забыты тэкст Вацлава Ластоўскага

Наўрад ці патрабуе каментарыя гэты твор -дастаткова ясны, лагічна зграбны, дакладны і, галоўнае, надта ж злобадзённы, хоць і напісаны 65 гадоў таму назад /у 1924 г./. Пэўна кожны з чытачоў па-свойму адчытае ліст Вацлава Ластоўскага і суаднясе прачытанае са сваім уласным светаглядам, з гістарычным вопытам свайго народа. Народа вартага больш шляхетнага лёсу, чым заставацца бязвольнымі, безаблічнымі насельнікамі рэгіянальнага комплексу па вытворчасці высокатаварнай свініны, бульбы,калійнай солі, машын ды вялізнага ракетна-ядзернага палігона. Іншае Беларусі - краіны нацыянальнае, свядомае сваіх гістарычных каштоўнасцей імперыяльная сістэма пад шыльдаю "единого могучего" бачыць не жадала.

Пэўна друкуемы ніжэй матэрыял не пакіне раўнадушным аніводнага беларуса прагнага бачыць сваю зняволеную Радзіму вольнай суверэннай дзяржавай, а свой шматпакутны свабодалюбівы народ - н а р о д а м. Словам, палітычная думка беларуская, якая здавалася канчаткова вынішчана, вытраўлена, сёння зноў падае адраджэнчы голас і паклікаецца на спадчыну вешчуноў беларускага духу.

Копія ліста знойдзена ў адным з прыватных архіваў віленскіх беларусаў. Арыгінал, як можна зразумець з кантэксту, быў накіраваны Ластоўскім да рэдактара грамадска-палітычнай газеты "Эхо" /"Айдас"/, што выходзіла ў Коўне ў 20-я гады. Чытай жа, шаноўны чытач, думай і рабі выснову.

### Милостивый Государь Господин редактор

Мне, как старому белорусскому деятелю, больно было читать характеристику белорусского движения изложенную в вашей уважаемой газете /... № 109, 15 У/, тем более, что изложенное не совсем соответствует действительности. Для меня, который стоит в первых рядах белорусского возрожденческого движения уже многие

годы было совершенно ново, что среди белорусов существует направление монархическое.Я думаю,даже более того -совершенно уверен в том, что такого направления белорусское движение совершенно не имеет. Белоруссия к началу XIX столетия представляла собой исключительно крестьянский народ, его бывшее дворянство поголовно ассимилировалось с поляками и частично русскими.Этим обусловливалась то, что белорусское национальное возрождение началось не с верхних национальных слоев и не с церкви, а зародилось и росло вместе с распространением социализма. Первые социалистические объединения выдвинули белорусское возрожденческое движение, питали его и питают по сие время. Белорусское возрождение держится исключительно на крестьянских массах и её представителях. Крестьянские белорусские массы и крестьянская интеллигенция впоследствии в наше время выдвинули и идею белорусской /кривской/ государственности.

В 1917 году всебелорусский учредительный конгресс в Минске /1870 депутатов/ провозгласил независимость Белоруссии /1/. За свою независимость белорусы боролись, проливали кровь,несли и несут бесчисленные жертвы.

Да, бывший многие годы порабощенным белорусский народ проснулся национально и требует себе государственной независимости, как непременное условие для своего духовного раскрепощения Ясно, что это стремление к независимости затрагивает интересы русского и польского империализма, которые в трогательном единении третьего русского интернационала с польской эндецией,разделили белорусскую территорию между Россией и Польшей пресловутым Рижским миром.

Ясно, что белорусское стремление к независимости имеет многочисленных и лютых врагов в рядах национально настроенных русских /единая и неделимая Россия с царем или без царя - безразлична!/ и поляков /Польша в границах 1772 года!/. И вот почему я утверждаю, что обвинение белорусского движения в монархизме есть абсурдом, ибо белорусское возрождение и - какого-бы ни было толка - русский или польский империализм - две разные совершенно не совместимые стихии.

Основанием белорусского возрождения служат:

1. исторические традиции своей государственности, просуществовавшей как федеральная единица в связи с Литвой и Польшей до конца ХУIII столетия;

2. этнографический элемент со своим особым языком из семьи словянских, особым своеобразным укладом жизни, экономическими взглядами и требованиями;

3.рассовый элемент: белорусы /кривичи/ и русские - две разные рассы. Данные антропологии свидетельствуют, что мы, белорусы /кривичи/ по антропологическим особенностям принадлежим к арийскому типу, а русские, или собственно великоруссы являются ословянившимися /по языку/ монголами. Следовательно, белорусское движение является по существу сепаратным от России, а движение национально рассовым и в этом отношении оно сходно с движением ирландским.

От самого зарождения белорусского возрождения, как выше было сказано, оно руководится группами социалистически настроенными. В период 1905 года руководители белорусского движения "Белорусская Социалистическая Громада" впоследствии распавшаяся на партии белорусских "социал-революционеров" и "социал-демократов"; во время немецкой оккупации в Минске /1918/ создалась безызвестная и немногочисленная группа /4-5 человек/ белорусских "социалистов-федералистов"; последняя никогда не имела влияния и нераспространялась дальше своих основателей. Во время Российской революции 1917 года появилась Коммунистическая партия Белоруссии. В последние годы /1920-1921/ начала развиватся национально настроенная группа "Селянски Саюз".

Все вышепереименованные белорусские партии, кроме коммунистов, борются за независимую Белорусскую Демократическую Республику. Последовательный порядок перечисления партий показывает степень их влияния, требуется оговорка только относительно коммунистов. Как известно, Коммунистическая партия Белоруссии руководит Белорусской Социалистической Советской Республикой. Влияние её там довольно велико благодаря тому, что она сумела обстоять перед Московским центром право вести национальную работу: создавать школы, издательства на белорусском языке и прочее. Но в последние годы не мен/шее/ начинает приобретать влияние Коммунистическая партия и на белорусской территории, вошедшей в состав Польши. Коммунисты достигли тут успехов благодаря всевозможного характера преследованиям, которым подвергаются белорусы под польской оккупацией.

В этом случае польский шовинизм оказался лучшим рассадником коммунизма среди белорусского населения. Однако из этого не следует, что белорусы, особенно руководящие белорусским движением вопреки, безкритически относятся к этому распространению коммунизма. Лучшим доказательством противокоммунистической борьбы является существование и громадное влияние других партий, особенно в последнее время, групп с ясно обозначившейся национальной программой, которые начинают приобретать все больший престиж в массах.

Влияние духовенства на белорусские массы, благодаря тому что церковь православная несет русификацию, а католическая опостылевшую белорусам полонизацию, незначительна. Группа ксендзов белорусов, хотя и довольно значительная, но не проявляет активности; группа белорусов православных священников немногочисленна и не крепка национально.

Около идейно белорусского движения все время пищат разного толка авантюристические и безоглядные элементы, вроде упомянутых Вами Балаховича, который белорусским съездом в Праге в 1922 г. объявлен врагом белорусского народа и никаким образом не может представлять белорусское движение /2/.

Вот обьективное изложение настоящего состояния белорусского движения.

Теперь, относительно позиции, занимаемой белорусскими партиями и группами /к/ Латвии. Представление белорусам Латвии национальной автономии было встечено всеми белорусскими организациями и партиями как дружественный акт латвийского народа. Белорусское движение в целом, в лице представителей своих организаций и партий приняло этот акт с глубокой благодарностью и весьма дорожило им. Мы должно оценивали значение клочка земли в мире, где не только не преследовали белорусов за то, что они белорусы, но где наравне с другими белорусы пользовались правом на культурное развитие. И со стороны белорусского движения до сихпор не было ни одного акта, который бы оспаривал у Латвии Латгалию. Карта "Белорусская Народная Республика" печатаная в 1918 г., когда еще не были зафиксированы настоящие границы Латвии обозначает красной линией территорию расселения белорусов, не показывает, что белорусы на означанной территории составляют большинство. К таким территориям принадлежит и Латгалия. Там белорусское население существует меньшинством. Вдобавок, мне не представляется возможным отторжение Латгальской территории белорусами /если бы такая тенденция существовала/ , ибо у белорусов до сих пор нет своей государственной территории. А отторжение к частям, оккупированым Польшей или Советской Россией, было бы сверх курьёзным и самое мнение неразумным.

И мне кажется, что вся буря, разразившаяся так грозно в Латгалии над головами белорусских учителей, является последствием провинциальных сплетен и интриг с одной стороны лиц и группок оккульствующих около белорусского движения, с другой - недоброжелателей всякого сепаратизма в общем, а белорусского в частности. Я тут подразумеваю российских и польских империалистов.

Я думаю, что создание независимой Белоруссии в латвийском народе и его руководящих кругах может пользоваться вполне понятными симпатиями, как народа, который сам недавно сбросил с себя чужой гнет. Точно так же как среди общественных белорусских кругов пользуется искренней симпатией Латвия, Литва, Эстония; народы как и наш, крестьянские, но раньше нас сумевших отстоять свою независимость, а этим самым служащие для нас примером и надеждой на осуществление наших стараний. Мы прекрасно понимаем, что существование независимых балтийских республик тесно связано с возможностью нашего освобождения и поэтому белорусское движение дорожит независимостью каждой из новообразовавшихся республик как залогом своего в будущем раскрепощения.

Я буду весьма Вам обязан, г-н редактор, если Вы ради выяснения истины, соблаговолите поместить в Вашей уважаемой газете настоящее мое письмо.

Примите заверение в искреннем к Вам почете.

В. Ластоўскі, б. председатель Совета Министров Белорусской Народной Республики

У пастскрыптум Ластоўскі дабаўляе наступнае:

В латвийской прессе, между другими обвинениями, появились и обвинения на издаваемый мною в Ковно журнал "Кривич", которому была приписана также тенденция "латышского" сепаратизма, что разумеется является чистейшим вымыслом, о чем прошу убедится из присылаемого вместе с самим письмом, комплектом "Кривича". В.Л.

/1/ Памылка: першы Усебеларускі з'езд не абвясціў незалежнасці Беларусі - гл. "КАНТАКТ" № 2, с. 26.
/2/ Памылка: канферэнцыя ў Празе адбылася ў верасні 1921 г.

*******************************

АД РЭДАКЦЫІ

Васіль П., Беласток. Дзякуем за дасланыя матэрыялы аб акоўскім тэроры на Беласточчыне. Рэдакцыя рашыла іх выкарыстаць у наступным выпуску ў кантэксце шырэйшай распрацоўкі злачынстваў польскага падполля на гэтай тэрыторыі.

Валя Г., Менск. Рэдакцыя пагаджаецца з Вамі, што гісторыя Саюза Беларускай Моладзі заслугоўвае на аб'ектыўную публікацыю, аднак яе нешаблоннае прадстаўленне немагчымае ў рамках кароткага артыкула. Спадзяемся ў 1991 г. выпусціць асобную брашуру аб гэтай арганізацыі.

Жэня М., Варшава. Палемічныя заўвагі да артыкула В. Мароза аб нашых "дэгенератах" зацікаўляюць, аднак надыйшлі позна. Апублікуем у чарговым выпуску.

Да ўсіх аўтараў. Рэдакцыя перагледзела сваю ранейшую пазіцыю, якая дапускала магчымасць стасавання у "КАНТАКЦЕ" разнастайных беларускіх правапісаў, згодна з пажаданнем аўтараў паасобных тэкстаў. Не хочам больш здзекавацца з роднай мовы і, пачынаючы з наступнага выпуску, пераходзім на адзіны акадэмічны правапіс.

## З М Е С Т






Перадрук дазваляецца са спасылкай на крыніцу.
Падрыхтоўка выпуску закончана 15 ліпеня 1990 г.